**№ 8 (4055)**

29 студзеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НАДВОР'Е

## Вясна прыйшла!

Люты можа стаць самым цёплым за ўсю гісторыю метэаназіранняў. Сіноптыкі прагназуюць, што адліга захаваецца ўвесь наступны месяц.

Доўгатэрміновы прагноз Gismeteo.by па ўсіх абласных цэнтрах Беларусі пакідае ўражанне, што нехта нешта наблытаў. Сіноптыкі абяцаюць працяглыя перыяды сонечнага надвор'я з тэмпературай +3…+8°С. На поўдні Беларусі ў сярэдзіне лютага (!) абяцаюць да +10…+12°С, у Мінску – +8°С! Крыху пахаладае, але таксама з плюсавымі тэмпературамі, толькі ў канцы лютага.

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, спецыяльна для "Народнай Волі"

# Дзецюкам з дручкамі можна ўсё?

У нармальнай краіне пасля такога скандалу, як збіццё журналіста і грамадскіх актывістаў сілавікамі (ды дзе – у будынку суда!), іх шэф, бадай, падаў бы ў адстаўку. Бо гэта апрыёры ганьба і – калі адкінуць эмоцыі – элементарны непрафесіяналізм падначаленых.

У нас жа міліцэйскае начальства паспяшалася абвясціць, што карэспандэнт tut.by Павел Дабравольскі, якога 25 студзеня змясілі на горкі яблык у сталічным Фрунзенскім судзе, сам вінаваты: "пранік у службовае памяшканне, дзе знаходзіліся парушальнікі правапарадку, перашкаджаў законным дзеянням супрацоўнікаў міліцыі". Бачыце: хаця паводле факта ўжывання фізічнай сілы праводзіцца праверка, дзеянні міліцыянтаў, што білі двух пратэстоўцаў і журналіста, якія хацеў зафіксаваць гвалт на відэа, апрыёры трактуюцца як законныя. А гэта азначае, што бярэ верх устаноўка "сваіх не здаваць".

Натуральна, над людзьмі з гэтага ведамства ёсць і вышэйшае начальства, але я не памятаю выпадку, каб яно сыкнула на дубаломаў, што відавочна перайшлі мяжу. За гады кіравання Аляксандра Лукашэнкі малойчыкам "пры выкананні" шмат разоў сыходзіў з рук "беспредел" на вачах сведак: і разбітыя тэлекамеры прэсы, і скрываўленыя галовы дэманстрантаў, і натрэніраваны ўдар у твар удаве зніклага тэлеаператара… Ну а ўжо калі "разбіраюцца" без сведак – увогуле тушы святло.

Чаму такое патуранне? У недэмакратычных рэжымаў логіка прымітыўная: людзі павінны баяцца, маўчаць у анучку, не вытыркацца. "Народзец" мусіць зарубіць на носе: пачнеш даводзіць свае правы, "выступаць" – атрымаеш па нырках ды яшчэ і штраф (як той самы Дабравольскі), а то і за краты сядзеш. Дубаломам "пры выкананні" даюць карт-бланш, бо яны забяспечваюць непахіснасць гэтай улады.

Беспакаранасць жа разбэшчвае, разбурае прафесійную (ды і проста чалавечую) мараль. Тыя ж міліцыянты масава становяцца лжэсведкамі, найперш супраць свядомых праціўнікаў сістэмы ("лаяўся матам, аказваў супраціў"). Пракуроры шыюць палітычныя справы: выйшаў пратэставаць супраць фальсіфікацый на выбарах – усё, удзельнік масавых беспарадкаў, у турму! Суддзі штампуюць высмактаныя з пальца выракі "пятай калоне".

Магчыма, апрычнікі сённяшняй улады збольшага спакойна спяць, бо думаюць, што так будзе вечна. Аднак досвед краін, дзе жорсткія рэжымы ляснуліся, сведчыць: хай сабе іншым разам праз шмат гадоў, але многім даводзіцца трымаць адказ. Дарэчы, ва Украіне, дзе цяпер ідзе пераатэстацыя супрацоўнікаў МУС, у камісіі ўваходзяць і журналісты, якія добра памятаюць, хто ім біў камеры ды мяў рэбры за часамі Януковіча.

Зрэшты, Лукашэнка выразна даў зразумець, што не паўторыць памылак слабака Януковіча (каторы, калі яго ўлада захісталася, спалохаўся ды стаў "зліваць" сваіх сілавікоў). А гэта азначае, што ў канфліктах з тымі, каго наверсе трактуюць як "пятую калону", тутэйшым дубаломам найхутчэй што і надалей усё будзе сыходзіць з рук.

Між тым сёння сілавікі, у якіх няма тармазоў, падкладаюць беларускаму кіраўніцтву свінню. У лютым Еўрасаюз будзе вырашаць, што далей рабіць з замарожанымі цяпер санкцыямі супраць прадстаўнікоў рэжыму. Міністэрства замежных спраў на чале з У.Макеем доўга шчыравала, каб паставіць дачыненні з Захадам на рэйкі нармалізацыі. Лукашэнка трывае наскокі пракрамлёўскіх каментатараў, што пекляць яго за здраду, ухіленне ад саюзніцкага абавязку. Трывае, бо надта патрэбны заходнія грошы, найперш у выглядзе крэдыту МВФ.

Тым часам збіццё журналіста і двух грамадскіх актывістаў займела міжнародны розгалас. З асуджэннем гвалту выступіла прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч і многія іншыя. Так што Еўропа чухае патыліцу…

Дарэчы, сам працэс над графіцістамі, на якім пацярпелі карэспандэнт Павел Дабравольскі і яшчэ двое хлопцаў – Павел Сяргей ды Максім Шыцік, што спрабавалі разгарнуць у зале транспарант, выглядае па еўрапейскіх мерках недарэчным, высмактаным з пальца. Калі адкінуць нюансы, то злачынцамі робяць маладых людзей, што намалявалі на сцяне незалежніцкі лозунг. Паказальна, што і іх затрымлівалі брутальна, аднаму зламалі сківіцу – і, зноў жа, небарака праўды не дамогся. Прынцып "не здаваць сваіх" працуе жалезна.

Не, я не адвакат Максіма Шыцыка і Паўла Сяргея. Вядома ж, яны ведалі, што ніхто не дазволіць ім разгарнуць у зале суда транспарант, як і ведалі, якое адміністрацыйнае пакаранне за сваю акцыю могуць панесці. Але ж хто думаў, што яны і журналіст, які фактычна быў пры выкананні прафесійных абавязкаў, трапяць пад каваныя боты міліцэйскіх гарыл.

Сёння беларускае кіраўніцтва апынулася перад дылемай. З аднаго боку, хаця б дзеля нармалізацыі дачыненняў з ЕС і ЗША (калі ўжо не сорамна перад сваімі), дзеля атрымання замежных грошай варта было б паставіць на месца тых служак, у якіх занадта свярбяць кулакі. З іншага боку, важна падтрымліваць у выканаўцаў з дручком пачуццё беспакаранасці, каб без роздуму душылі любыя пратэсты.

І ёсць вялікая засцярога, што чым горай будзе з эканомікай, чым мацней будзе патыхаць народным абурэннем, тым большую свабоду рук стануць даваць тым натрэніраваным дзецюкам, што ходзяць з чорнымі дручкамі.

*(Працяг тэмы на 2-й стар.)*









# Ці могуць яны лічыць сябе афіцэрамі?..

*Будзем спадзявацца, што пасля службовай праверкі МУС назаве паіменна "герояў", якія мелі прамое дачыненне да збіцця журналіста Паўла Дабравольскага і актывістаў Максіма Шыціка і Паўла Сяргея. Нам пакуль вядома толькі адно прозвішча: першы злева ў фотападборцы* – **Сяргей КАВАЛЬЧУК.**

АФІЦЫЙНА

## Мінімум на выжыванне

У Беларусі з 1 лютага ўстаноўлены новы памер бюджэту пражытачнага мінімуму.

У сярэднім на душу насельніцтва ён з 1 лютага па 30 красавіка 2016 года будзе складаць (у разліку на месяц) 1 мільён 591 тысячу 310 рублёў.

Пастановай Міністэрства працы і сацыяльнай абароны па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах устаноўлены наступны БПМ:

– працаздольнае насельніцтва – 1.751.560 рублёў,

– пенсіянеры – 1.213.110,

– студэнты – 1.539.810,

– дзеці ва ўзросце да трох гадоў – 1.010.500,

– дзеці ва ўзросце ад трох да шасці гадоў – 1.415.810,

– дзеці ва ўзросце ад шасці да васямнаццаці гадоў – 1.741.220 беларускіх рублёў.

СЁННЯ

## Што прывязе Кабякоў з горада на Няве?

Сёння, 29 студзеня, у Санкт-Пецярбургу прэм'ер-міністр Расійскай Федэрацыі **Дзмітрый Мядзведзеў** сустрэнецца з прэм'ер-міністрам Беларусі **Андрэем Кабяковым**, паведамляе прэс-служба расійскага ўрада.

Афіцыйнае паведамленне аб сустрэчы – як кажуць, ні пра што. «Падчас размовы будуць закрануты актуальныя пытанні расійска-беларускага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, сумеснай працы ў рамках Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі, а таксама ўзаемадзеянне ў Еўразійскім эканамічным саюзе…» Працэй сказаць, што парадак дня не агалошваецца.

Нагадаем, што на дадзены момант паміж Беларуссю і Расіяй не вырашана нават пытанне коштаў на газ і нафту. Што тычыцца чаканага крэдыту, то Расія прыняла рашэнне з-за складанага эканамічнага становішча ў гэтым годзе ўвогуле не выдаваць міждзяржаўных крэдытаў. Нікому! Хаця Беларусь усё яшчэ спадзяецца, што для яе будзе зроблена выключэнне з гэтага рашэння.

ТЫМ ЧАСАМ

## Сустрэнуцца…

Учора адбылася тэлефонная размова прэзідэнтаў Беларусі і Расіі **Аляксандра Лукашэнкі** і **Уладзіміра Пуціна.**

Як паведаміла прэс-служба беларускага лідара, кіраўнікі дзяржаў дамовіліся сустрэцца ў найбліжэйшы час і ў закрытай і больш грунтоўнай размове абмеркаваць пытанні двухбаковых адносін.

ЭКОНОМИКА

## Прикупить заводик не желаете?

Белорусские власти озвучили планы по приватизации на 2016 год. На продажу выставлены акции 56 предприятий. Информация об этом размещена на сайте Государственного комитета по имуществу.

В перечень вошли предприятия Министерства строительства и архитектуры, Министерства промышленности, Министерства транспорта и коммуникаций, Министерства связи и информатизации, Министерства энергетики, Министерства культуры, Министерства сельского хозяйства и продовольствия, а также концернов «Белгоспищепром», «Беллесбумпром» и «Беллегпром».

По сравнению с минувшим годом список крупных предприятий, акции которых выставлены на продажу, практически не изменился. Из него исключили разве что «Могилевхимволокно». Однако там по-прежнему находятся некоторые знаковые акционерные общества.

В частности, государство хочет продать стратегическому инвестору 25% + 1 акцию ОАО «БАТЭ» – управляющая компания холдинга «Автокомпоненты».

СКАЗАНО!

Наталья КОЧАНОВА:

## «Врача надо защищать…»

*На итоговой коллегии Министерства здравоохранения вице-премьер Беларуси Наталья Кочанова высказала свое мнение по поводу того, что в обществе порой возникает негативное отношение к врачам.*

**Но** «*у жителей, которые получили тысячи, сотни тысяч спасенных людей*», так быть не должно, заявила чиновница. «*Врача надо защищать*», – констатировала она.

– *Появляется какая-то полемика в средствах массовой информации, и все начинают ее подхватывать, говорить плохо. Так быть не должно,* – отметила Наталья Кочанова. – *Мы должны давать четкую оценку действиям врачей и, возможно, на более ранних стадиях прекращать вот эту полемику, которая начинается в СМИ… Здоровье – это не только врач и лечение, но и человек, который должен понимать, что здоровье – это самое ценное, что есть у него.*

К СЛОВУ

## Василий Жарко будет контролировать назначения главврачей

Одной из главных причин того, что пациенты недовольны услугами, оказанными в учреждениях здравоохранения, министр здравоохранения **Василий Жарко** назвал плохую организацию работы на местах. Вообще в докладе министра на итоговой коллегии Минздрава звучало много критики в адрес руководителей облздравотделов, которые, по его мнению, «*должны жить в районах, выстраивать работу, помогая на местах, а не сидя у себя в кабинете*».

«*Недопустимо, когда начальники управления не дают должную оценку руководителям подчиненных организаций, при назначении руководствуются принципом угодности себе, не обращая внимания на профессиональные качества и должную подготовку как организатора,* – возмущался Жарко. – *А сегодня бездеятельность таких главных врачей приводит к отсутствию должной организации и личной ответственности*». Министр заявил, что ему было «*просто стыдно*» за бесхозяйственность, которую он увидел при посещении центральных районных больниц Сморгони и Зельвы.

– *Я уже обращал ваше внимание на предыдущих коллегиях, что наиболее важным моментом является организация работы, и она не требует больших финансовых затрат,* – отчитывал подчиненных Василий Жарко. – *Но похоже, что меня не все услышали. И сегодня в ряде центральных районных больниц, которые я посетил, нет административных обходов главврача, нет правильной организации учебы специалистов, нет принципиального разбора причин смерти лиц, умерших в трудоспособном возрасте, нет должной преемственности в оказании услуг пациентам. И всех это устраивает. Включая начальников управлений здравоохранения. Где оценка работы главврача со стороны районных и областных исполнительных комитетов? Все остаются и дальше работать на своих должностях! Именно поэтому президент поручил мне согласовывать назначения всех главных врачей.*

К слову, на коллегии министром были озвучены результаты социологического исследования «Оценка населением организации обслуживания в учреждениях здравоохранения», которое проводил Информационно-аналитический центр при Администрации президента.

Оказывается, больше всего нареканий у белорусов действительно на то, как организована работа в больницах и поликлиниках. Вот самые распространенные жалобы пациентов:

– огромные очереди к врачу, из-за которых приходится отпрашиваться с работы;

– больные сидят со здоровыми в одной очереди;

– врачу отводится мало времени на прием одного пациента;

– нет постоянных врачей;

– трудно попасть на прием к узкому специалисту;

– лечение врач назначает по протоколу, нет индивидуального подхода;

– время, указанное в талоне, не учитывается, пациенту с талоном приходится сидеть в общей очереди;

– сложно пройти медкомиссию;

– к специалисту надо приходить несколько раз.

«*При этом само качество медицинских услуг гораздо реже вызывает нарекания у пациентов*», – отметил Василий Жарко.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

В НОМЕР!

## «Тамифлю» нет, но есть «Флустоп»

«*Белорусская аптечная сеть сверх норматива обеспечена лекарственными препаратами*», – заявил на итоговой коллегии Минздрава первый заместитель министра здравоохранения **Дмитрий Пиневич**, говоря о том, как белорусское здравоохранение готово к эпидемии гриппа.

«Народная Воля» в свою очередь решила проверить, что предлагают посетителям столичные аптеки. Рейд организовали вчера в разных районах Минска.

В первую очередь посмотрели, есть ли на полках противовирусные препараты – белорусские «Арпетол» и ремантадин, российский «Кагоцел» и «Амиксин», а также импортный и белорусский осельтамивир, который медики называют наиболее действенным препаратом при гриппе. Торговые названия осельтамивира – «Флустоп» (производства РБ) и «Тамифлю» (Швейцария). Обратили внимание и на наличие препаратов, которые уменьшают симптомы при острых респираторных заболеваниях.

Общий итог – лекарства действительно есть. Правда, практически ни в одной из государственных аптек, которые мы посетили, не было в наличии «Тамифлю», но, как правило, был белорусский «Флустоп» . Чаще всего фармацевты на отсутствие «Тамифлю» реагировали так: «А зачем вам этот дорогущий препарат за 600 тысяч, берите «Флустоп» за 150».

Итак, что мы увидели в аптеках?

**Аптека «Белфармация» №32, ул.Я.Коласа, 33**

«Флустоп» – есть
«Тамифлю» – есть
«Арпетол» – есть
ремантадин – есть
«Кагоцел» – нет
«Амиксин» – есть
«Фервекс» – нет, но есть антигриппин.

**Аптека «Росфарм», ул. Б.Хмельницкого, 2**

«Флустоп» – осталась 1 упаковка
«Тамифлю» – нет
«Арпетол» – есть
ремантадин – есть
«Кагоцел» – нет
«Амиксин» – есть
«Фервекс» – есть

**Аптека СЗАО «Медвакс», ул. Ленина, 15**

«Флустоп» – есть
«Тамифлю» – есть
«Арпетол» – есть
ремантадин – есть
«Кагоцел» – есть
«Амиксин» – есть
«Терафлю», антигриппин – есть
«Фервекс» – нет.

**Аптека «Белфармация» №110 на ул. Руссиянова, 9**

«Флустоп» – есть
«Тамифлю» – нет
«Арпетол» – есть
ремантадин – есть
«Кагоцел» – нет
«Амиксин» – есть
«Терафлю», «Инсти», «Гростудин», «АнГриМакс» – есть
«Фервекс» – нет

**Аптека «Фармаркет плюс», ст. метро «Пушкинская»**

«Флустоп» – нет
«Тамифлю» – нет
«Арпетол» – есть
ремантадин – есть
«Кагоцел» – есть
«Амиксин» – есть
«Терафлю» – есть
«Фервекс» – нет

**Аптека «Белфармация» №54, пр-т Партизанский, 147**

«Флустоп» – есть
«Тамифлю» – нет
«Арпетол» – есть
ремантадин – есть
«Кагоцел» – нет
«Амиксин» – есть
«Терафлю», «Гростудин», «АнГриМакс» – есть

**Аптека №3 ООО «Доктор Время», Громова, 281**

«Флустоп» –нет
«Тамифлю» – нет
«Арпетол» – есть
ремантадин – есть
«Кагоцел» – есть
«Амиксин» – есть
«Фервекс», «Терафлю», «Гростудин», «АнГриМакс» – есть

**Аптека «Белфармация» №9 , ул. В.Хоружей, 11**

«Флустоп» – есть
«Тамифлю» – нет
«Арпетол» – есть
ремантадин – есть
«Кагоцел» – есть
«Амиксин» – нет
«Терафлю», «Гростудин», «АнГриМакс» – есть
«Фервекс» – нет

**Аптека «Белфармация» №34 , ул. Уральская, 16**

«Флустоп» – есть
«Тамифлю» – нет
«Арпетол» – есть
ремантадин – есть
«Кагоцел» – нет
«Амиксин» – есть
«Фервекс» – нет.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## Мінюст прыпыніў рэгістрацыю партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя»

Міністэрства юстыцыі прыпыніла дзяржаўную рэгістрацыю партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя». Як паведамляе прэс-служба БХД, пра гэта Мінюст паведаміў аргкамітэту партыі лістом.

Згодна з законам, Мінюст павінен прыняць рашэнне аб рэгістрацыі партыі ці адмове на працягу месяца пасля падачы дакументаў. Аднак чыноўнікі маюць магчымасць прыпыніць рэгістрацыю для вывучэння дадатковых дакументаў.

У каментарыі на сайце БХД выказваецца меркаванне, што беларускія ўлады гэткім чынам цягнуць час у чаканні, пакуль Еўрасаюз адменіць візавыя абмежаванні. Рашэнне аб рэгістрацыі БХД адкладзена да лютага, калі ЕС плануе вырашыць пытанне пра санкцыі да беларускіх чыноўнікаў.

Устаноўчы з'езд партыі адбыўся ў Мінску 12 снежня 2015 года. Дакументы ў Мінюст на рэгістрацыю былі перададзены 24 снежня. Гэта ўжо шостая спроба зарэгістраваць партыю.

**Алег СНОЎ.**

SOS!

# Бязмежжа

*Пра пачатак гэтай гісторыі “Народная Воля” расказала ў мінулым нумары. У матэрыяле быў такі эпізод. “Ужо на пачатку пасяджэння суда двое актывістаў – **Максім ШЫЦІК** і **Павел СЯРГЕЙ** – пачалі скандзіраваць: “Не палітычным пераследам!!!” Яны трымалі расцяжку з аналагічным надпісам. Міліцыянты выдалілі іх з судовый залы і адвезлі ў міліцыю для складання пратакола”.*
*Як потым высветлілася, паміж выдаленнем і пратаколам яшчэ шмат чаго адбылося, і сведкам гэтага стаў наш калега з інтэрнэт-партала tut.by **Павел ДАБРАВОЛЬСКІ.** І не проста сведкам.*
*Ён, як і маладыя хлопцы Максім Шыцік і Павел Сяргей, быў жорстка збіты амапаўцамі і ў парваным адзенні дастаўлены ў суд і аштрафаваны амаль на 9,5 мільёна рублёў.*
*Што ж адбылося?*
*Чаму прама ў будынку суда пралілася кроў журналіста?*
*І не толькі журналіста.*
*Пытанні, якія ўжо чацвёрты дзень не даюць спакою ўсім свядомым беларусам...*



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## За што?

### Павел ДАБРАВОЛЬСКІ, журналіст:

– У панядзелак, у 10.40, я прыйшоў у будынак Фрунзенскага суда, каб асвятляць судовы працэс над графіцістамі. З-за вялікай чаргі своечасова трапіць у залу пасяджэнняў я не змог, таму стаяў звонку, каля ўваходу.

Працэс пачаўся, а праз некаторы час я ўбачыў, што з залы вывелі нейкіх людзей, якія трымалі плакат. Я здымаў відэа і пабег за гэтымі людзьмі, каб зняць на камеру тое, што адбываецца. У выніку мяне разам з хлопцамі з плакатам упіхнулі ў нейкі пакой і зачынілі дзверы.

Мы апынуліся ў пакоі пяць на пяць метраў. Было чалавек 5–6. Збівалі нас недзе хвілін 20–30. Я не ўсіх памятаю ў твар, але, напэўна, калі мне іх пакажуць, то пазнаю. І, дарэчы, адзін з іх (а можа, нават двое) потым быў сведкам па нашай справе.

Пасля гэтага гадзін пяць мы правялі зноў у судзе, толькі ўжо суд быў над намі. Мне прад'явілі абвінавачанне: напад на супрацоўнікаў АМАП і нецэнзурная лаянка. Канешне, гэта поўная лухта: я ні на кога не нападаў і не лаяўся. Тым не менш суддзя Марыя Ярохіна мяне і слухаць не стала. Яна цалкам прыняла бок амапаўцаў-сведак. Тых самых, што нас збівалі.

### Павел СЯРГЕЙ:

## «Дабравольскі спрабаваў ўстаць, выйсці, паклікаць каго-небудзь на дапамогу, але яго толькі мацней білі...»

– Нас збівалі нагамі каля дваццаці хвілін, скакалі і хадзілі па нас, бесперапынна абражаючы нецэнзурнай лаянкай. Было шмат пахабных жартаў, напрыклад, абяцанняў засунуць нам што-небудзь самі ведаеце куды... Наогул, склалася адчуванне, што міліцыянеры вельмі заклапочаныя гомасексуальнай тэмай, таму што ўвесь час пра гэта кажуць і жартуюць. Дабравольскі спрабаваў устаць, выйсці, паклікаць каго-небудзь на дапамогу, але яго толькі мацней білі. Яму там дасталася больш за ўсіх. Мне ўдалося закрыць твар рукамі, таму ў мяне асаблівых слядоў не засталося.

Мы ляжалі тварам у падлогу агулам хвілін сорак, чакаючы, калі прыедзе машына і адвязе нас у мясцовы РАУС. У РАУС на нас склалі пратаколы. На мяне – за непавагу да суда і супраціў супрацоўнікам міліцыі. У нас пыталіся, навошта мы гэтым усім займаемся, колькі нам заплацілі і ці не лепш нам было сядзець дома і гуляць у плейстэйшан. Мы, вядома, спрабавалі ім нешта растлумачыць, але гэтым людзям зусім не зразумела, што чалавек можа займацца чымсьці бескарысліва і нават нечым ахвяраваць. Яны судзяць па сабе і лічаць, што чалавек можа толькі выконваць нечыя загады і атрымліваць за гэта грошы.

Потым адвезлі ў той жа суд, дзе мы праводзілі акцыю пратэсту, і аштрафавалі на 50 базавых велічынь, што склала дзесяць з паловай мільёнаў беларускіх рублёў. Суд адбываўся вельмі хутка: нас заводзілі, прызначалі штраф і неадкладна выводзілі. Штраф у дзесяць з паловай мільёнаў рублёў – сума для мяне значная, на дадзены момант гэта дзве мае зарплаты прамысловага альпініста. А Максім Шыцік – беспрацоўны, і я не ўяўляю, як ён будзе расплачвацца (мы ж з ім з горада Маладзечна, які займае першае месца па беспрацоўі).

Хто мы? Мы – з той моладзі, якой не ўсё роўна, што адбываецца вакол нас. Наш рух называецца «Пошуг» (і роднасны яму «Экалагічны Пошуг»). Мы стараемся праяўляць актыўнасць у кірунку ўсіх актуальных для нашага народа праблем. Мы ўсе вядзём здаровы лад жыцця, мы ўсе або вегетарыянцы, або веганы і праяўляем актыўнасць у сферы экалогіі. Мы хацелі б здзейсніць рэвалюцыю свядомасці, абуджаць людзей ад гэтай беларускай спячкі, каб людзі не былі абыякавыя да таго, што адбываецца вакол іх.

### Максім ШЫЦІК:

## «...А потым нас усіх паклалі тварам у падлогу»

– Мы планавалі гэтую акцыю пратэсту супраць палітычных пераследаў, але я не думаў, што нам удасца гэта зрабіць у зале суда. Зрабілі! Канешне, я ведаў, што нас выведуць, што заламаюць, пакараюць... А вось што нас будуць збіваць – гэтага я не чакаў. Ды яшчэ прыцягнулі нейкага хлопца і пачалі збіваць нагамі. Ён паказаў пасведчанне, што ён журналіст (я гэта чуў), а потым нас усіх паклалі тварам у падлогу. Ён спачатку спрабаваў нешта даказваць, але яны ўсё роўна збівалі.

### Прэзідэнт Еўрапейскай федэрацыі журналістаў:

## «Ён проста рабіў сваю працу»

Еўрапейская федэрацыя журналістаў асудзіла арышт Паўла Дабравольскага і запатрабавала ад беларускіх улад зняць з журналіста абвінавачанні.

*“Відавочна, што Дабравольскі не зрабіў ніякага злачынства. Ён проста выконваў сваю працу, каб асвятляць злоўжыванні з боку ўлад...”* – пракаментаваў інцыдэнт Могенс Бліхер-Б'ерэгард, прэзідэнт ЕФЖ.

### МУС:

## «Праводзіцца службовая праверка»

*На сайце Міністэрства ўнутраных спраў з'явілася кароткае паведамленне датычна таго, што адбылося ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска.*

«25 студзеня 2015 года ў судзе Фрунзенскага раёна г.Мінска ў ходзе разгляду крымінальнай справы двое непрацуючых жыхароў г.Маладзечна перашкаджалі правядзенню судовага пасяджэння.

Суддзёй было вынесена папярэджанне аб магчымасці выдалення з залы суда, на якое яны не адрэагавалі. Па ўказанні суддзі супрацоўнік міліцыі прапанаваў дадзеным грамадзянам пакінуць памяшканне суда.

На законныя патрабаванні супрацоўніка міліцыі пакінуць залу суда грамадзяне не адрэагавалі і аказалі непадпарадкаванне, у сувязі з чым да іх была прыменена фізічная сіла.

Таксама быў затрыманы грамадзянін П.Дабравольскі, які пранік у службовае памяшканне, дзе знаходзіліся парушальнікі правапарадку, перашкаджаў законным дзеянням супрацоўнікаў міліцыі, на заўвагі спыніць свае супрацьпраўныя дзеянні не рэагаваў.

У дачыненні да аднаго з затрыманых суддзёй суда Фрунзенскага раёна г.Мінска быў складзены адміністрацыйны пратакол па ст.24.1 (непавага да суда) КаАП, супрацоўнікамі міліцыі – адміністрацыйны пратакол па ст.23.4 (непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ёй службовых паўнамоцтваў) КаАП. У дачыненні да двух іншых затрыманых – адміністрацыйныя пратаколы па стст.17.1 (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ёй службовых паўнамоцтваў) КаАП Рэспублікі Беларусь.

Справы аб адміністрацыйных правапарушэннях былі разгледжаны ў судзе, апошнія падвергнуты адміністрацыйным спагнанням у выглядзе штрафу.

У адпаведнасці з Законам «Аб органах унутраных спраў» для спынення супрацьпраўных дзеянняў ужывалася фізічная сіла. Па факце правамернасці яе ўжывання ў ГУУС Мінгарвыканкама прызначана службовая праверка».

## «Вольнай журналістыкі захацеў – на, атрымай!»

– Я пранік хіба толькі ў калідор, у які вывелі гэтых хлопцаў, пайшоў за імі здымаць відэа. Літаральна два крокі зрабіў, бо стаяў якраз там. А ў само службовае памяшканне, як там пішуць, мяне ўжо закінулі і пачалі збіваць, – *сцвярджае Павел Дабравольскі, каменціруючы заяву МУС.* – Я туды не трапляў сам, мяне туды наўмысна сілком адправілі. І там пачалі збіваць. Ніякіх папярэджанняў я не чуў. Іх папярэджанне – удар нагой па твары, гэтыя людзі не здольны ні на якія папярэджанні. І яны бачылі маё пасведчанне – вырвалі з рук і сказалі: “Вольнай журналістыкі захацеў – на, атрымай!” І нагой...

**– Павел, вы знялі пабоі?**

– Так, калі ўчора (*было гэта 26 студзеня.* – **Рэд.**) я напісаў заяву ў міліцыю аб збіцці амапаўцамі ў будынку суда, у Фрунзенскім РАУС мне абяцалі выдаць пастанову аб прызначэнні судмедэкспертызы 26 студзеня. Пры наяўнасці такога дакумента агляд праходзіць бясплатна. Аднак супрацоўнікі міліцыі не звязаліся са мной. Я ім тэлефанаваў некалькі разоў, мне абяцаліператэлефанаваць, але не рабілі гэтага. У выніку здымаць пабоі я адправіўся самастойна, без накіравання, за свой кошт. Агляд каштаваў каля 200 тысяч рублёў і заняў каля паловы гадзіны. Вынікі абяцалі даць у пісьмовым выглядзе праз 2–3 дні.

**– Як праходзіў агляд?**

– Доктар узяў сантыметр і вымераў бачныя пашкоджанні. Аднак у мяне на целе ў выніку збіцця ёсць балючыя месцы, дзе няма сінякоў. Таму я разлічваў, што правядуць нейкае даследаванне, акрамя візуальнага, напрыклад, ультрагукавое. Але доктар нават дыханне стэтаскопам не праслухаў.

**– Як адчуваеце сябе?**

– Не мог заснуць ноччу, амаль не еў. Увогуле, мне нядобра. Але не ведаю, звязана гэта са збіццём ці не.

**– Што будзеце рабіць далей?**

– Буду дзейнічаць у залежнасці ад заключэння экспертызы, планую звярнуцца ў суд. У любым выпадку лічу важным давесці справу да канца. Нават калі не прыцягнуць гэтых людзей да адказнасці, важна, каб іх імёны ўвайшлі ў гісторыю і каб такое не магло паўтарыцца з іншымі.

## У будынку суда – месцы, дзе павінна вяршыцца правасуддзе, – учыняецца беззаконне і бязмежжа

ТАА «Тут Бай Медыя» (партал tut.by) накіравала зварот начальніку ГУУС **Аляксандру Барсукову** і пракурору Мінска **Сяргею Хмаруку** ў сувязі з затрыманнем і збіццём журналіста Паўла Дабравольскага супрацоўнікамі АМАП.

«*Аргументы, што прыводзіць у гэты час прэс-служба ГУУС, пра нібыта супраціўленне супрацоўнікам міліцыі, якое яны вымушаны былі спыніць з выкарыстаннем фізічнай сілы, не вытрымліваюць ніякай крытыкі: немагчыма сабе ўявіць, каб пры затрыманні двое хлопцаў-актывістаў і тым больш не зацікаўлены ў зыходзе справы журналіст сталі б кідацца на прафесійных супрацоўнікаў АМАП, якія ў некалькі разоў пераўзыходзілі іх лікам і фізічнай сілай, прычым (мяркуючы па характары нанесеных ім цялесных пашкоджанняў) шматкроць. Сведкі, што знаходзіліся ў зале суда, чулі гукі збівання на працягу доўгага часу. Пра збіццё кажуць і сляды пабояў, што засталіся на целе нашага журналіста*», – гаворыцца ў звароце.

«*Мы абураны паводзінамі і дзеяннямі супрацоўнікаў АМАП. Перакананы, што ніхто не мае права перашкаджаць ажыццяўленню прафесійнай дзейнасці журналіста і тым больш прымяняць гвалт. Яшчэ больш абуральна, калі такія выпадкі адбываюцца не ў зоне ўзброеных канфліктаў, не на масавых акцыях. У будынку суда – месцы, дзе павінна вяршыцца правасуддзе, – учыняецца беззаконне і бязмежжа*», – гаворыцца ў звароце tut.by.

У ТАА “Тут Бай Медыя” мяркуюць, што ў дзеяннях супрацоўнікаў праваахоўных органаў утрымліваюцца прыкметы «як мінімум двух злачынстваў», прадугледжаных арт.198 (перашкода законнай прафесійнай дзейнасці журналіста) і арт.426 (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў) Крымінальнага кодэкса.

## Спыніцеся!

Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ **Дуня Міятавіч** асудзіла збіццё журналіста Паўла Дабравольскага супрацоўнікамі міліцыі ў Мінску і ў чарговы раз заклікала беларускія ўлады забяспечыць абарону журналістаў.

– Я заклікаю ўлады неадкладна расследаваць інцыдэнт. Такія дзеянні прадстаўнікоў праваахоўных органаў у дачыненні да супрацоўнікаў СМІ з'яўляюцца непрымальнымі. Міліцыя павінна садзейнічаць працы журналістаў, а не перашкаджаць і запалохваць іх, – гаворыцца ў заяве Міятавіч, размешчанай на афіцыйным сайце АБСЕ.

РЭЗАНАНС

## Гэта дзікунства!

*Збіццё ў судзе Фрунзенскага раёна Паўла Дабравольскага, журналіста партала tut.by, выклікала шырокі рэзананс. «Народная Воля» папрасіла пракаментаваць гэтую падзею прадстаўнікоў беларускай эліты.*

### Радзім ГАРЭЦКІ, геолаг, акадэмік НАН Беларусі:

– Абураны. Гэта дзікунства! Якая можа быць іншая рэакцыя? Я асабіста ведаю Юрыя Зісера і многіх журналістаў tut.by. Гэта сумленныя людзі. Міжволі праводжу паралелі паміж Беларуссю і краінамі, у якіх змагаюцца з тэрарызмам (тая ж Украіна). У апошніх журналісты робяцца ахвярамі гвалту. Але ў нас самая мірная краіна, а журналістаў б'юць! Гэтыя праваахоўнікі згубілі свой чалавечы воблік. Людзей, адказных за гэтае здарэнне, трэба як мае быць пакараць.

### Валянцін СТЭФАНОВІЧ, юрыст:

– Па законе аб СМІ журналіст меў права асвятляць гэты суд. Павел Дабравольскі меў пры сабе бэйдж, казаў, што ён з'яўляецца журналістам. Ён не здзяйсняў ніякіх супрацьпраўных дзеянняў, толькі вёў відэазапіс. Гэта не было падставай для прымянення фізічнай сілы. Лічу, што адбылося перавышэнне службовых паўнамоцтваў. Следчы камітэт павінен правесці праверку гэтых фактаў. А таксама вызначыць адказнасць супрацоўнікаў міліцыі, якія назіралі за падзеямі, але не ўмешваліся. Калі шчыра, я сумняваюся, што хтосьці будзе прыцягнуты да адказнасці. Памятаю, быў выпадак, калі фатографу Сяргею Грыцу падчас асвятлення пікета ўдарылі ў твар і разбілі акуляры, а адказнасць ніхто не панёс. Дарэчы, сталічнае ГУУС ужо выпусціла прэс-рэліз, згодна з якім Дабравольскі “пранік” у памяшканне. Нагадваю: гаворка ідзе пра суд. Пры гэтым вельмі важна, што журналіст звярнуўся з заявай у Следчы камітэт і зафіксаваў пабоі. Ён выкарыстоўвае ўсе метады для абароны сваіх правоў.

### Андрэй ХАДАНОВІЧ, беларускі паэт, перакладчык, старшыня беларускага ПЭН-цэнтра:

– Зразумела, што я абураны. Скажу больш, мяне зачапілі за жывое. Я хацеў бы жыць у краіне, дзе міліцыя і іншыя сілавыя структуры выконваюць свае службовыя абавязкі. А не ў той краіне, дзе імі будуць пужаць маленькіх дзяцей. Калі чалавек у форме збівае іншага – гэта сапраўдны кашмар. Незалежна ад таго, якой прафесіі была ахвяра гэтага здарэння. Таксама гэта сітуацыя зачапіла мяне як літаратара. Павел Дабравольскі – творчы чалавек, які піша тэксты. А мы як сябры ПЭН-цэнтра дэкларуем права на свабоду слова. Апроч таго, гэтым учынкам былі парушаны мае правы на атрыманне аб'ектыўнай інфармацыі ў судзе.

## Заява Беларускай асацыяцыі журналістаў

ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” абурана збіццём сябра нашай арганізацыі журналіста Паўла Дабравольскага ў будынку суда падчас выканання рэпарцёрам прафесійных абавязкаў. Такія дзікунскія дзеянні дыскрэдытуюць беларускія ўлады. Патрабуем правесці праверку па факце збіцця журналіста і прыцягнуць вінаватых да адказнасці.

25 студзеня ў будынку суда Фрунзенскага раёна г.Мінска супрацоўнікі міліцыі і сілавых структур жорстка збілі выдаленых з залы суда грамадскіх актывістаў і журналіста партала tut.by Паўла Дабравольскага, які фіксаваў інцыдэнт на відэа.

Дзеянні прадстаўнікоў сілавых структур з'яўляюцца грубым парушэннем правоў журналіста і падпадаюць пад дзеянне арт.198 Крымінальнага кодэкса РБ (стварэнне перашкод законнай прафесійнай дзейнасці журналіста).

Збіццё журналіста службовымі асобамі ў публічным месцы, якое сімвалізуе аблічча беларускага закона, – скандальнае і абуральнае. Абсурдным з'яўляецца і той факт, што ў той жа самы дзень у тым жа самым будынку суда Павел быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці і пакараны штрафам.

Скандальны выпадак дыскрэдытуе намаганні беларускай дзяржавы, якая афіцыйна падтрымлівае міжнародныя пагадненні па абароне свабоды слова і правоў чалавека. ГА “БАЖ” патрабуе высветліць асоб, якія збівалі журналіста, і ўзбудзіць у дачыненні да іх крымінальную справу.

ДАРЭЧЫ

У “справе графіцістаў” на гэтым тыдні быў абвешчаны перапынак. Чарговае пасяджэнне павінна пачацца сёння, 29 студзеня, у 14.30.

Максіму Пякарскаму і Вадзіму Жаромскаму прад'яўлена абвінавачанне паводле ч.2 арт.339 Крымінальнага кодэкса (хуліганства, здзейсненае групай асоб) за нанясенне беларускамоўных графіці і запэцкванне білборда. Калі суд пагодзіцца са следствам, то ім можа пагражаць абмежаванне свабоды да трох гадоў ці пазбаўленне волі да шасці гадоў. Вячаславу Касінераву інкрымінуюць арт.341 (апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці), пакаранне за які прадугледжвае грамадскія работы, штраф ці арышт. Нагадаем, што хлопцы ўсяго толькі нанеслі надпісы “Беларусь мае быць беларускай”, “Рэвалюцыя свядомасці”, а таксама сапсавалі білборд з выявай міліцыянера. Аднак затрымлівалі іх як экстрэмістаў. Вячаславу Касінераву падчас затрымання зламалі сківіцу і паўпрытомнага пасля аперацыі, нават у бальніцы, трымалі ў кайданках.



ЗА ПРАХАДНОЙ

## У полацкіх улад няма часу прыняць людзей, якія не ведаюць, як пракарміць дзяцей

*З-за складанага эканамічнага становішча многія рабочыя полацкага трэста №22 сыходзяць у адпачынак за свой кошт. Палачане звярнуліся да мясцовых чыноўнікаў, але прыняць людзей змогуць толькі 17 лютага.*

– *Прадпрыемства ў цяжкім становішчы ўжо каля года,* – сказала «Народнай Волі» намесніца кіраўніка трэста па фінансах і эканоміцы **Наталля Мыснік.** – *Рабочым трэба карміць сем'і, аплачваць камунальныя паслугі, дзіцячыя садкі, а трэст не ў стане забяспечыць добрымі заробкамі. Людзі звярнуліся да ўлад, але прыняць работнікаў стратнага прадпрыемства змогуць толькі праз некалькі тыдняў. Адным словам, шмат пытанняў.*

Паводле слоў Наталлі Мыснік, у прадпрыемства няма заказаў на будаўніцтва новых аб'ектаў. Без нармальнай загружанасці полацкая арганізацыя ўжо не першы месяц. Людзі з прадпрыемства не звальняліся, спадзяваліся, што сітуацыя зменіцца ў лепшы бок з надыходам 2016 года. Не змянілася.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Ад шасці да пятнаццаці

*Магілёўская абласная пракуратура перадала ў суд крымінальную справу аб забойстве грамадзянскага актывіста і праваабаронцы з Быхаўскага раёна Аляксандра ШАЧАНКА.*

Нагадаем, што амаль год Аляксандр Шачанок лічыўся зніклым без вестак, перш чым аператыўнікі знайшлі яго труп 27 чэрвеня 2015 года ў лесе каля вёскі Варонін Быхаўскага раёна.

У апошні раз Шачанка бачылі 27 жніўня 2014 года ў Быхаўскім раённым судзе, дзе праходзіў разгляд па іску актывіста ў дачыненні да яго суседа, які абвінавачваўся ў нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Меркавалася, што на апошнім пасяджэнні Аляксандр Шачанок выступіць з хадайніцтвам аб змене меры стрымання адказчыку, паколькі той нібыта выказваў пагрозы ў яго адрас.

Пра знікненне Шачанка паведаміў магілёўскі праваабаронца Барыс Бухель. Ён стэлефанаваўся з жонкай Аляксандра, якая сказала, што не ведае пра месцазнаходжанне мужа з 27 жніўня. Яна думала, што ён знаходзіцца на кватэры ў Магілёве, аднак яго там не знайшлі. Мабільнага тэлефона ў актывіста не было.

У яго забойстве прызнаўся 37-гадовы мужчына, які першапачаткова абвінавачваўся па зусім іншых артыкулах – крадзеж і захоўванне боепрыпасаў. Гэта аказаўся сын таго суседа, з якім у Шачанка адбыўся канфлікт.

Абласная пракуратура высветліла, што 27 жніўня 2014 года абвінавачаны знаходзіўся ў аўто, прыпаркаваным паблізу будынка раённай падатковай інспекцыі. Убачыўшы Шачанка, абвінавачаны прапанаваў таму сесці ў аўтамабіль і пагаварыць. Падчас размовы праваабаронца атрымаў удар электрашокерам, пасля чаго быў збіты. Ён памёр на месцы.

Абвінавачаны вывез труп у лясны масіў паблізу вёскі Варонін Быхаўскага раёна, дзе закапаў пад карэнішчам паваленай бярозы, а потым спаліў пашпарт і пенсіённае пасведчанне Шачанка.

Дзеянні зламысніка кваліфікаваны па ч.1 арт.139 (забойства), ч.1 ст.377 (знішчэнне афіцыйных дакументаў), ч.2 арт.295 (незаконныя дзеянні ў дачыненні да боепрыпасаў) і ч.1 ст.206 КК Рэспублікі Беларусь (рабаванне). Заканадаўствам за здзейсненыя злачынствы прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 6 да 15 гадоў. Крымінальная справа накіравана ў суд Быхаўскага раёна.

**Алег СНОЎ.**

ЧУЛІ?

## Жонка на гадзіну

У Гомелі з 1 лютага пачне працаваць паслуга менавіта з такой назвай.

На адмысловым сайце любы жадаючы можа замовіць уборку памяшкання. У пералік прапанаваных паслуг уваходзяць не толькі мыццё вокнаў, падлог, ачыстка сантэхнікі, але і паход у краму, складанне спісу пакупак, меню. Напрыклад, уборка памяшкання плошчай да 60 квадратных метраў абыдзецца ў 500 тысяч рублёў.

На сайце можна замовіць нават праціранне палічак ад пылу. Кошт такой паслугі – ад 10 тысяч рублёў.

ПЕРЕД СОБЫТИЕМ

## Бакст и Банк

*Разговор с известным банкиром Виктором БАБАРИКО о бедности и богатстве, о ценах на гениев и цене человеческого внимания, а также о пользе проекта «Арт-Беларусь» вообще и картинах Льва Бакста в частности*

Через 10 дней в Национальном художественном музее откроется очень интересная выставка – «Время и творчество Льва Бакста». Еще интереснее, что этот проект стал очередной инициативой ОАО «Белгазпромбанка», который с упорством и знанием исследователя уже многие годы ищет, находит и приобретает значимые для нашей родины произведения искусства, а затем преподносит их белорусской публике в виде солидно организованных выставочных проектов «Арт-Беларусь». Так, несколько лет назад мы познакомились с картинами художников Парижской школы, выходцами из наших земель. Сейчас «блюдо» будет не менее изысканное – Лев Бакст и его современники по художественному объединению «Мир искусств».

Художник Лев Бакст родился в Гродно, учился в Санкт-Петербурге, а прославился в начале прошлого века в Париже. Но в беседе с председателем правления ОАО «Белгазпромбанк» **Виктором Дмитриевичем БАБАРИКО** мы касались не столько истории искусств, сколько истории приобретения на арт-рынке Европы картин выдающихся соотечественников.

**– Виктор Дмитриевич, «Белгазпромбанк» ежегодно делает в Минске большую художественную выставку, которая довольно существенно влияет на общий культурный климат столицы. Мне кажется, вам уже пора иметь свою выставочную площадку – заслужили. Не думали об этом?**

– В конце прошлого года мы сделали такое предложение и городу, и Министерству культуры, и это вполне обоснованно, раз 2016-й провозглашен Годом культуры. Я согласен, наш проект «Арт-Беларусь» уже не может обойтись без выставочной площадки – либо совместной, либо собственной. Где и как – пока от государства ответа нет. Есть наше предложение, но встречного мы до сих пор не получили. И государственно-частного партнерства в том виде, как его понимаем мы, тоже не наблюдается. Условно говоря, сейчас ситуация такая: мы делаем бутерброд, даем бесплатно хлеб и масло. Но есть бутерброд, предполагается, мы будем вместе. Так еще и колбасу для бутерброда нам предлагают купить самим. Но где же партнерство? Впрочем, я думаю (и очень надеюсь), что в 2016 году вопрос все-таки разрешится. И «Белгазпромбанк» начнет работу по созданию собственного выставочного зала.

**– Государство наше бедное, а бедные, говорят, еще более жадные, чем богатые...**

– Мне категорически не нравится все беды списывать на бедность. Получается замкнутый круг. Как говорят белорусы: «Чаму ты бедны? Таму, што дурны. А чаму дурны? Таму, што бедны». Я абсолютно не согласен, что нерасторопность, безынициативность определяются бедностью или богатством. Позиция определяется взглядом на проблему.

**– Расскажите, пожалуйста: как пришли к вам в коллекцию шесть картин Бакста, которые будут показаны публике на предстоящей февральской выставке? И вообще, как выплывают знаменитые картины на арт-рынке Европы?**

– Там вряд ли что-то бывает вдруг. Есть система, и, когда ты начинаешь что-то делать, на твоем пути встречаются профессионалы, которые тебе начинают помогать. Любая большая дорога начинается с первого шага. Мы сделали этот шаг и увидели, что рынок большой, богатый и что вернуть картины наших бывших соотечественников в Беларусь никогда не поздно. Недавно мне процитировали нравоучительный диалог. Известного винодела спросили: «Год был плохой?» «Плохой», – ответил винодел. «Значит, и вино в этом году будет плохое?» – «Как так? Вино всегда будет хорошее! Просто придется больше работать». Всегда можно сделать хорошо – только иногда надо приложить больше усилий, чем обычно. Так и с коллекцией картин – надо очень стараться. Бакст начинался с удивительного везения: на одном из аукционов нам удалось купить его «Жар-птицу» – самый первый, самый знаменитый эскиз к парижскому балету. А вскоре узнали, что ЮНЕСКО в 2016 году отмечает 150-летие со дня рождения художника. Разве это не повод, чтобы искать его работы и дальше? И как только люди на арт-рынке увидели, что существует интерес, нам пошли предложения. Оказалось, что на самом деле Бакста достаточно много, и очень хорошего. Так что мы покупали его везде: и в Европе, и в России, и на аукционах, и у частных коллекционеров в Беларуси. Хотя продавец – не белорус, он агент владельца.

**– А сколько процентов берут при продаже агенты?**

– Опираясь на правила европейского арт-рынка, мы так сформулировали для себя условия работы с агентами. Например, международные аукционные дома берут от 20 до 25 процентов от суммы, за которую была продана работа. Это предельная цифра, которую можно заплатить. Соответственно, мы всем своим агентам ставим следующие условия: если стоимость работы до 10.000 евро, то 20–30 процентов ты можешь попытаться включить в агентское вознаграждение. Но попытаться – это не значит получить, рынок дело свободное. Если картина стоит до 100.000 евро, то 10–15 процентов, а больше и не проси, и не заикайся. Следующая планка – стоимость картины свыше 100.000 евро. Тогда вознаграждение будет не более 10 процентов.

**– А сколько стоит именно «наш Бакст»? Бакст, которого мы увидим на февральской выставке?**

– «Наш Бакст» стоит по-всякому.

**– Это тайна? Но цены ведь можно посмотреть в интернете?**

– В интернете можно посмотреть только аукционные цены, с открытых торгов. Если работы покупались у частных коллекционеров, то в открытых источниках вы цены не найдете, и мы никогда не говорим о стоимости приобретаемых работ. Потому что это предмет договора. Скажу лишь, что отдельные работы Бакста на ранке стоят больше миллиона долларов. Но я, впрочем, не совсем понимаю интерес к ценовому фактору произведений искусства. Если люди интересуются ценами, то для них, может, в музеях лучше ценники выставлять, чем картины?

**– Что же здесь удивительного: мир пропитан финансами, котировками, биржевыми новостями! И часть публики, несомненно, с удовольствием смотрит на цифры под картинами.**

– Но тогда сколько стоит удовольствие познания? Я так рассуждаю: влияние проекта «Арт-Беларусь» огромно и – неоценимо. Для меня, например, бесценны отзывы после нашей выставки «Десять веков искусства Беларуси». Люди приходили в музей, а потом говорили: «А я и не думал, что живу в стране с такой богатой историей!» Вот как оценить этот отклик? С моей точки зрения, если кто-нибудь после художественной выставки стал более уважительно относиться к своей стране, то никаких денег не жалко.

**– Все новые работы, которые вы приобрели, прошли экспертизу?**

– Весь наш Бакст, естественно, прошел экспертизу – или Русского музея, или Третьяковки, или международных аукционных домов.

**– И никаких детективных историй не было?**

– Ну, раз вы так настаиваете, поделюсь одной историей, в которой был элемент драматизма. На аукционе в Париже рядом с нами сидела пожилая леди. И когда мы купили Бакста, она обернулась и сказала: «Вы молодцы, вы счастливчики, приобрели достойную работу!» Мы разговорились, я рассказал ей о проекте «Арт-Беларусь», и она пригласила нас с супругой в гости: мол, а я покажу вам своего Бакста. Но так сложились обстоятельства, что я не смог воспользоваться этим предложением. И зря. Потому что приглашала нас в гости не кто иной, как русская княгиня – владелица большой коллекции Бакста. И на следующий год, как мне стало известно, она продала России больше 300 его произведений! Эта ситуация стала мне уроком: в жизни надо быть очень внимательным к совершенно случайным встречам.

**– Особенно на аукционах...**

– Да везде! Ты ведь даже не знаешь, к чему может привести любая встреча, и поэтому пренебрегать ничем случайным не стоит. Я еще раз задумался о важности человеческого общения. Собственно, не имеет значения, каким проектом ты занимаешься. Главное, как ты общаешься с людьми в рамках того или иного проекта.

**– Вас еще, Виктор Дмитриевич, не приглашали в какие-нибудь закрытые клубы коллекционеров? Мне кажется, вы стали достаточно компетентным экспертом в приобретении шедевров...**

– Во-первых, я не считаю себя компетентным коллекционером. Я – менеджер. Более того, менеджер «Белгазпромбанка», а никак не проекта «Арт-Беларусь». Это первое. Второе: конспирология с закрытыми клубами меня очень пугает. Так как я по первому образованию теоретический механик, немного знаю физику, то убежден, что любая закрытая система обречена на умирание. И сегодняшний мир это доказывает: чем более закрытое государство, тем меньше шансов у него выжить. Соответственно, все закрытые, тайные, близкие-далекие общества – полная ерунда. Другое дело – тусовки коллекционеров. Они достаточно открыты.

**– Вы сегодня можете поделиться планами, какая знаменитая фамилия может быть следующей после Льва Бакста в вашей корпоративной коллекции?**

– Сейчас ведутся дискуссии о Франциске Скорине, потому что в 2017 году исполнится 500 лет с момента издания просветителем в Праге «Библии Руска», или Псалтиря, первой белорусской печатной книги. Я могу сказать открыто: мы сделали свое предложение и готовы приобрести и вернуть в Беларусь одну из книг нашего знаменитого первопечатника. Она принадлежит частному коллекционеру. Но он хочет определенную цену. И пока мы не достигли согласия. А если достигнем, то 2017 год для нашего проекта «Арт-Беларусь» пройдет определенно под именем Скорины.

**– Выставка в Национальном музее откроется в начале февраля, а билеты на Бакста продаются уже сегодня. И недорогие, от 25 до 50 тысяч в будний день. Интересно, какой процент от продажи билетов идет банку?**

– Никогда деньги от билетов не идут нам – ни одной копейки выручки. От выставок «Белгазпромбанк» ни одной копейки не получает. В разных пропорциях эти деньги идут частично нашим партнерам, которые помогают организовывать выставку, и той площадке, на которой выставка делается, в данном случае Национальному художественному музею. Мы никогда не проверяем счета, это лежит на совести организаторов.

**Елена МОЛОЧКО.**

АТЫ-БАТЫ

## Жанчыны на мяжы

*У Інстытут памежнай службы ўпершыню набіраюць дзяўчат. Праўда, каб атрымаць лейтэнанцкія пагоны, ім давядзецца прайсці тры этапы выпрабаванняў, а потым вучыцца і служыць як мінімум дзевяць гадоў.*

З новага навучальнага года Інстытут памежнай службы прымае ў шэрагі сваіх студэнтаў не толькі юнакоў, але і дзяўчат ва ўзросце ад 17 да 21 года. Умовы наступныя: яны павінны з'яўляцца грамадзянкамі Беларусі, мець закончаную агульную сярэднюю, прафесійна-тэхнічную з агульнай сярэдняй альбо сярэднюю спецыяльную адукацыю. План набору ў Інстытут на бліжэйшы, 2016/2017, навучальны год складае 100 чалавек, з іх усяго 20 дзяўчат. Іх будуць навучаць па спецыяльнасці “Кіраванне падраздзяленнямі памежнага кантролю”.

Як патлумачылі “Народнай Волі” ў прыёмнай камісіі Інстытута памежнай службы, да 1 красавіка 2016 года дзяўчатам трэба падаць заявы для паступлення ў ваенкаматы па месцы жыхарства. Як адзначылі ў прыёмнай камісіі, адразу пасля паступлення дзяўчаты падпішуць кантракт. Гэты дакумент прадвызначыць іх будучыню на дзевяць гадоў: чатыры гады вучобы і пяць гадоў службы, якую яны пачнуць з лейтэнанцкімі пагонамі.

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

ИМЕЙТЕ В ВИДУ

## Не верьте!

Всплеск попыток вербовки белорусских девушек в клубы Северного Кипра отмечается в последние месяцы.

Об этом сообщила на пресс-конференции руководитель инфолинии по безопасному выезду и пребыванию за границей 113 **Ирина Варварина.**

«*Вербовщики озвучивают сомнительную (по сути, мошенническую) схему трудоустройства, предлагают приехать для работы по туристической визе, а по приезде оформить рабочую визу*», – пояснила специалист.

Ирина Варварина предостерегла от поспешных и необдуманных поступков, которые могут повлечь тяжелые последствия для тех, кто попался на удочку вербовщиков. Привлечь их к ответственности крайне сложно, ведь они находятся на территории других государств и приезжать в Беларусь не собираются. Их задача заключается только в том, чтобы обманом уговорить девушек приехать в другую страну, подчеркнула специалист.

ТРАГЕДЫЯ

## ...А пасля іх знайшлі мёртвымі

*У Барысаве ў сваіх кватэрах загінулі адразу шасцёра чалавек. Карэспандэнт “Народнай Волі” пабываў на месцы, дзе адбылася трагедыя.*

Дом №6 па вуліцы Дняпроўскай знаходзіцца на ўскрайку горада, у ваенным гарадку. Звычайны пяціпавярховы дом, “хрушчоўка”. Ля першага пад'езда дзяжураць два міліцыянеры. Яны забараняюць усім уваход у пад'езд і не пускаюць нават да суседзяў.

Коратка адказваюць: *“Ідуць следчыя дзеянні”.*

На вуліцы – знічка на лаўцы і следчыя, якія нічога канкрэтнага пакуль не кажуць. Проста канстатуюць факт здарэння і дадаюць, што праводзіцца расследаванне. А вось жыхары суседняга пад'езда больш ахвочыя да размовы.

*“На трэцім паверсе жылі пенсіянеры – муж і жонка, –* пачынае размову жанчына, якая прадстаўляецца Таццянай. – *Я іх добра не ведала, але мужчына – інвалід, ён на вуліцы ледзь рухаўся з кіёчкам. Жонка, здаецца, працавала на рынку. Вось іх сын першым і забіў трывогу. 27 студзеня ён прыйшоў да бацькоў, а ніхто не адчыняў дзверы. Тады ён іх выламаў. Бацькі ляжалі ўжо мёртвыя, быццам бы атруціліся газам. У момант выклікалі ратавальнікаў, міліцыю, пачаўся абход па кватэрах. Калі ўскрылі кватэру на другім паверсе (акурат пад тымі пенсіянерамі), убачылі жудасную карціну – мёртвая была ўся маладая сям'я. 10 гадовы сын ляжаў быццам бы ў ваннай, дачка-адзінаццацікласніца – за камп'ютарам, іх бацькі – у розных пакоях. Такое ўражанне, што нехта нервова-паралітычны газ пусціў”.*

У кватэрах пах газу жыхары пад'езда адчулі яшчэ 26 студзеня. Жанчына з чацвёртага паверха некалькі разоў выклікала газавікоў, але тыя нічога небяспечнага не знайшлі.

*“Яшчэ 26 студзеня адчувався пах газу,* – распавяла яна. – *Але пах быў спецыфічны – з нейкай хлоркай. Раніцай 27 студзеня ў туалет і ванную наогул немагчыма было зайсці, таму выклікала газавікоў у 7 раніцы. Прыехалі, праверылі, сказалі: “Дозы нязначныя”. А мне ўжо так дрэнна стала, што ледзь на нагах трымалася. Я перапалохалася, у мяне маленькае дзіця. Праз гадзіну зноў газавікоў выклікала. Ізноў прыехалі – усё нармальна. У санстанцыю патэлефанавала, там мне адказалі, каб пісала пісьмовую заяву, хоць пах газу, маўляў, гэта не іх справа. З ЖЭСа прыйшлі і таксама нічога не выявілі, хоць “наяўнасць паху газу” прызналі. У абед мяне “хуткая” забрала, а ўвечары даведалася, што пад нашай кватэрай усе памерлі. Гэта значыць, пакуль я газавікам спрабавала нешта даказаць, людзі ў гэты час паміралі альбо ўжо былі мёртвыя”.*

**Ала і Аляксандр Булай**, якія жылі на другім паверсе, працавалі ў вайсковай часці. Ім было прыкладна па 40 гадоў. Ён выкладаў у школе прапаршчыкаў, яна працавала поварам. Старэйшая дачка Паліна хадзіла ў 11-ы клас, малодшы Міша – у чацвёрты.

*“26 студзеня ў 16.06 Паліна напісала праз інтэрнэт адной сваёй знаёмай: “Калі кашляю, задыхаюся. Мне дрэнна, нешта забалела сэрца”,* – распавядае мне аднакласніца загінуўшай дзяўчынкі. – *А ў 23.46 ужо мне сяброўкі напісалі: “Паліна чамусьці не адказвае, падымайце вэрхал. Відаць, з ёй нешта здарылася”. Шчыра кажучы, асабліва не надала гэтаму вялікай увагі. Тым больш што ўжо было дванаццаць ночы. Зранку Паліна не прыйшла ў школу, наш класны кіраўнік пачаў тэлефанаваць ёй і маці. Ніхто не адказваў. А пасля іх знайшлі мёртвымі... У іх кот і сабака жылі, яны таксама задыхнуліся”.*

Абставіны гібелі людзей высвятляе Следчы камітэт. Яго супрацоўнікі і павінны даць адказ на пытанні, што адбылося і хто вінаваты.

“Народная Воля” яшчэ вернецца да гэтай жудаснай трагедыі.

**Алесь СІВЫ.**

*г.Барысаў.*

РЭГІСТРАТУРА

### Уладзімір ГАРБАЧОЎ, заснавальнік медыцынскага цэнтра «ЛОДЭ»:

## «Як толькі ў нас будзе ўсё гатова да выдачы бальнічных лістоў – адразу пачнём выдаваць»

З 1 лютага, як вядома, прыватныя медцэнтры краіны могуць выдаваць бальнічныя лісты. Для гэтага не патрэбна спецыяльная ліцэнзія Міністэрства аховы здароўя, у цэнтры павінна быць створана ўрачэбна-кансультацыйная камісія і выдзелена асобнае памяшканне для захоўвання бальнічных лісткоў, паколькі гэта бланкі строгай справаздачнасці.

Куды ж мы зможам звяртацца за бальнічным лістом з 1 лютага, калі не захочам сядзець у чарзе ў паліклініцы па месцы жыхарства?

Аказваецца, што ўсе вядучыя медцэнтры краіны – «Экамедсэрвіс», «ЛОДЭ», «Нардзін», «Новое зрение», «Кравіра» і іншыя пакуль не гатовы прадастаўляць такую паслугу. «*Ідзе падрыхтоўка, дата пакуль не вызначана*», – такія каментарыі даюць прыватнікі.

Намеснік галоўнага ўрача клінікі «Новое зрение» **Вадзім Мурашка** тлумачыць: «*Пакуль выдачу бальнічных мы не плануем, мы не шматпрофільны цэнтр і робім упор на амбулаторнае лячэнне. Ды і пастанова Міністэрства аховы здароўя не носіць абавязковы характар. Выдача бальнічных суправаджаецца шэрагам арганізацыйных момантаў, усё ж такі гэта бланкі строгай справаздачнасці. Акрамя таго, няма адзінай базы медыцынскіх дадзеных, гісторый хваробы пацыента, а гэта ўскладняе працу ўрача. Але, магчыма, мы да гэтага прыйдзем...*”

Заснавальнік медыцынскага цэнтра «ЛОДЭ» **Уладзімір Гарбачоў** так тлумачыць, чаму цэнтр не пачынае выдаваць бальнічныя з 1 лютага і як там плануюць арганізаваць дадзеную дзейнасць:

– *У цяперашні час у медыцынскім цэнтры «ЛОДЭ» вядзецца папярэдняя работа, У першую чаргу мы гатовы выдаваць бальнічныя тым, хто абслугоўваецца ў нас шмат гадоў запар, стаіць на дагаворах – тэрапеўтычных, педыятрычных, а таксама на дагаворы па вядзенні цяжарнасці. Чаму? Таму што мы добра ведаем гісторыю хваробы такіх людзей. Для ўрача выдача бальнічнага ліста – вялікая адказнасць, часам урачы бачаць пацыента першы раз, не маюць дадзеных пра гісторыю яго хваробы. Іншая справа, калі гаворка ідзе пра тых пацыентаў, якія абслугоўваюцца ў нашым цэнтры гадамі, і мы ведаем дасканала гісторыю іх хваробы.*

*Мы гатовы выдаваць бальнічныя таксама тым пацыентам, якія прыходзяць да нас у цэнтр на аперацыю. Напрыклад, у нашым аддзяленні праводзяць аперацыі гінеколагі, флеболаг, практолаг, отарыналарынголагі, пластычныя хірургі, стаматолагі-хірургі і г.д. На сённяшні дзень пасля аперацыі ў нашым цэнтры пацыент павінен адкрыць бальнічны ў паліклініцы. Гэта стварае нязручнасці перш за ўсё для пацыентаў. І права выдаць бальнічны ліст у дадзеным выпадку для нас – вельмі добра.*

*Што тычыцца іншых момантаў, то мы яшчэ два гады таму заяўлялі, што для выдачы бальнічных лістоў нам усім – і прыватным цэнтрам, і дзяржаўным установам аховы здароўя – патрэбна агульная база медыцынскіх дадзеных. Каб урач, які ўпершыню бачыць пацыента, мог паглядзець яго гісторыю хваробы. Акрамя таго, неабходна адзіная база бальнічных лістоў, каб урачы бачылі, калі, кім і на якія тэрміны раней былі выдадзены лісткі часовай непрацаздольнасці. Без адзінай базы медыцынскай дакументацыі і бальнічных працэс выдачы лістоў часовай непрацаздольнасці становіцца непразрыстым і цяжка кантралюемым.*

*Зноў жа: нельга скінуць з рахункаў высокую верагоднасць узнікнення канфліктных сітуацый. І мы не выключаем, што хто-небудзь з пацыентаў будзе спрабаваць атрымаць бальнічны без дастатковых на тое падстаў, у адваротным выпадку пагражаючы скаргамі ў вышэйшыя інстанцыі. Бо ён, прыйшоўшы на кансультацыю да ўрача, разлічваў атрымаць бальнічны, а ўрач не ўбачыў для гэтага дастатковых падстаў. Пацыент запатрабуе вяртання грошай за кансультацыю, так як яго мэта – атрыманне бальнічнага – не дасягнута. Але ж і ўрач правёў пэўную работу, аддаў пацыенту 30 хвілін часу. У выніку – скарга на цэнтр.*

*Акрамя таго, для пастаноўкі правільнага дыягназу і прызначэння эфектыўнага лячэння неабходна правесці дадатковыя абследаванні (здаць аналізы, магчыма, зрабіць рэнтген, правесці кансультацыі сумежных спецыялістаў і інш.). За ўсе гэтыя паслугі пацыент таксама павінен будзе заплаціць.*

*Ці такая сітуацыя: пацыент звярнуўся ў платны цэнтр, бальнічны яму не выдалі, а звярнуўся ў паліклініку – выдалі. Ці наадварот. Зноў канфлікт і скаргі.*

*Ёсць шмат іншых нюансаў. Аднак несправядліва пазбаўляць большасць сумленных пацыентаў патрэбнай паслугі толькі з-за таго, што хтосьці захоча скарыстацца гэтым незаконна! Менавіта таму мы разглядаем усе магчымыя праблемы, звязаныя з дадзеным пытаннем.*

*Цяпер у нас пераходны перыяд. Рыхтуем дакументы. Падалі заяўкі ў БелМАПА на навучанне 7 чалавек, яшчэ 5–6 чалавек плануем навучыць другім этапам, шукаем намесніка галоўнага ўрача па экспертызе. Як толькі ў нас будзе ўсё гатова да выдачы бальнічных лістоў – адразу пачнём выдаваць.*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## ПЯТНИЦА, 5 ФЕВРАЛЯ

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** «Новости».
**07.05, 08.05** «Новости экономики».
**07.10, 08.10, 19.20** «Зона Х».
**09.10 «След».** Сериал.
**10.00, 13.00, 16.00** «90 секунд».
**10.50 «Простая жизнь».** Сериал.
**12.10, 16.30** «Семейные мелодрамы-6».
**13.25** «День в большом городе».
**14.25** «Детский доктор».
**15.15, 18.40** «Новости региона».
**15.25, 00.25 «Ловушка».** Сериал.
**17.35** «Terra incognita. Беларусь неизвестная».
**18.10** «Тайны следствия».
**20.00, 01.10 «Не покидай меня».** Сериал.
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Судьба гигантов».
**22.15 «Красотка».** Худ.фильм.
**00.15** «День спорта».

### Беларусь 2

**07.00** «Телеутро».
**09.00, 21.05** «Тэлебарометр».
**09.05, 17.20** «Война невест».
**09.40** «Человек-невидимка».
**10.45, 16.20 «Закрытая школа».** Сериал.
**11.40** «Экстрасенсы-детективы». Док.цикл.
**12.40 «Воронины».** Сериал.
**13.45, 17.50 «Рыжие».** Сериал.
**14.20 «Кухня».** Сериал.
**15.30, 23.40** «Пин-код».
**18.20, 01.15** «Разрушители мифов».
**19.20 «Заложница-2».** Худ.фильм.
**21.10** «Битва экстрасенсов. Война титанов».
**22.00** «Спортлото 5 из 36», «КЕНО».
**00.30** «Репортер».

### Беларусь 3

**07.20** Мультфільмы.
**08.00, 12.40, 18.05, 23.50** "Калейдаскоп".
**08.15** "Гісторыя Беларусі".
**08.20 "Людзі на балоце. Палеская хроніка".** Серыял.
**09.30** "Аўтограф".
**10.00 "Анiскiн і Фантамас".** Маст.фільм.
**12.10** "Святло далёкай зоркі".
**12.55** "Сіла веры".
**13.20** "Вандроўніца".
**14.00** "Шлягеры на ўсе часы". "Джаз і класіка". Канцэрт Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга.
**15.20** "Справы фамільныя".
**15.45 "Сірано дэ Бержарак".** Маст.фільм.
**17.35, 23.25** "Камертон".
**18.20, 21.00** "Грамадзянская вайна: забытыя бітвы".
**19.05 "Горка!".** Маст.фільм.
**20.40** "Калыханка".
**21.40 "Да скарбаў авіякатастрофы".** Маст. фільм.

### Беларусь 5

**07.35, 18.50, 22.35** «PRO-спорт».
**07.50, 22.45** Баскетбол. НБА.
**09.35** Биатлон. Этап Кубка мира. Спринт. Мужчины.
**11.10** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**12.05** «Спорт-микс».
**12.25** «Спорт, спорт, спорт».
**12.55** Хоккей. Чемпионат Беларуси.
**14.50** Смешанные единоборства.
**16.50** Гандбол. Чемпионат Европы-2016. Избранное.
**18.20** «Мир английской премьер-лиги».
**18.55** Хоккей. КХЛ. «Нефтехимик»–«Динамо-Минск».
**21.10** Биатлон. Этап Кубка мира. Спринт. Женщины.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.25** «Контрольная закупка».
**11.05, 13.05, 16.15, 18.15, 21.00** «Новости спорта».
**11.10** «Модный приговор».
**12.15** «Непутевые заметки».
**13.10** «Мужское/женское».
**14.10** «Вера Глаголева. «Меня обижать не советую».
**15.10** «Время покажет».
**16.20 «Три плюс два».** Худ.фильм.
**18.20** «Жди меня. Беларусь».
**18.55** «Поле чудес».
**20.00** «Время».
**21.05** Церемония вручения народной премии «Золотой граммофон».
**23.05 «Миллион для чайников».** Худ.фильм.
**01.00** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.35 «ХА».** Маленькие комедии.
**12.10** «Река жизни».
**13.50, 16.50, 19.50, 23.00** «Новости – Беларусь».
**14.30** «О самом главном».
**15.30** «Прямой эфир».
**17.30 «Каменская».** Сериал.
**19.10, 20.55 «Земский доктор».** Сериал.
**22.00, 23.10** «Юморина».
**23.55 «Однажды преступив черту».** Худ. фильм.

### НТВ-Беларусь

**05.55** «Астропрогноз».
**06.00, 07.00, 08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**06.10 «Хвост».** Сериал.
**07.10** «НашПотребНадзор. Не дай себя обмануть!».
**08.05** «Утро» с Юлией Высоцкой».
**09.00 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**10.20 «Свет и тень маяка».** Сериал.
**12.00** «Суд присяжных».
**13.25** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**14.10 «Братаны».** Сериал.
**16.20 «Улицы разбитых фонарей».** Сериал.
**18.00** «Говорим и показываем».
**20.00 «Пасечник».** Сериал.
**21.40** «Большинство».
**22.45 «Соло для пистолета с оркестром».** Сериал.
**00.25 «Глухарь. Продолжение».** Сериал.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.25** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТВ-спорт».
**08.30 «Игра в четыре руки».** Сериал.
**10.40, 17.35** «Званый ужин».
**11.30** «Семейные драмы».
**12.30 «Не ври мне!».** Сериал.
**13.50** «Простые вопросы».
**14.10, 23.00 «NEXT-3».** Сериал.
**15.40** «Самая полезная программа».
**16.50** «В последний момент».
**18.35** «Такова судьба».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.15 «Фрида».** Худ.фильм.
**00.25 «Рейд».** Худ.фильм.

### Мир

**06.00** «180 минут».
**09.00** «Любимые актеры».
**09.30 «Если можешь, прости».** Худ.фильм.
**11.10 «Отдам жену в хорошие руки».** Худ. фильм.
**13.00, 16.00, 19.00** «Новости».
**13.15 «Развод».** Сериал.
**15.00** «Дела семейные».
**16.20** «Секретные материалы».
**17.20 «Дежурный ангел».** Сериал.
**19.20 «Я буду жить!».** Сериал.
**22.50 «Спящая красавица».** Худ.фильм.
**00.25** «Держись, шоубиз!».
**00.55 «Воссоединение семейки Адамс».** Худ. фильм.
**02.40** «Трэш-тест».
**03.30 «Музыкальная история».** Худ.фильм.
**04.55** Мультфильмы.

### Россия Культура

**06.30** «Евроньюс».
**10.00, 15.00, 19.30, 23.30** «Новости культуры».
**10.20 «Частная жизнь Петра Виноградова».** Худ.фильм.
**12.00** «Ускорение. Пулковская обсерватория».
**12.35** «Пристань спасения».
**13.20** «Правила жизни».
**13.50** «Письма из провинции».
**14.15** «Веселый жанр невеселого времени».
**15.10** «Черные дыры. Белые пятна».
**15.55, 01.55** «Настоящая Мэри Поппинс».
**17.00** «Царская ложа».
**17.40** «Большой балет».
**19.45** «Искатели».
**20.35** «Старцы». Вспоминая Архимандрита Иоанна Крестьянкина.
**21.05** «Шестнадцатая весна». Худ.фильм.
**22.30** «Линия жизни». К 75-летию Владислава Пьявко.
**23.45** «Худсовет».
**23.50** «Культ кино».
**01.30** Мультфильмы для взрослых.

### Белсат

**07.00, 08.00, 12.35, 13.35, 18.30, 19.30, 01.10** "Студыя "Белсат".
**07.25, 13.00** "Людскія справы".
**10.10, 15.45** "Рэпартэр".
**10.40** "Відзьмо-невідзьмо".
**11.05, 16.30** "Лікёра-гарэлачны завод". Дак. фільм.
**12.05, 17.30** "Чачня: адваротны бок фасаду". Дак.фільм.
**16.15** "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
**18.00** "Прыват: жыццё напаказ.
**18.55** "Загадкі беларускай гісторыі": "Расійская крэпасць у Гродне".
**19.15** "Сведкі: талака".
**21.00** "Аб'ектыў".
**21.40** "ПраСвет".
**22.15** "Пяць разбітых камер". Дак.фільм.
**23.50 "Сыгнет падману".** Маст.фільм.

## СУББОТА, 6 ФЕВРАЛЯ

### Беларусь 1

**06.35** «Існасць».
**07.00 «Ошибки любви».** Худ.фильм.
**08.35, 21.40 «Кровные узы».** Худ.фильм.
**09.00, 12.00, 15.00** «Новости».
**10.35** «50 рецептов первого».
**11.30** «Судьба гигантов».
**12.10** «Здоровье».
**12.55** «Наши».
**13.10, 15.45 «Зимний вальс».** Сериал.
**15.15** «Краіна».
**17.30 «Чужая женщина».** Сериал.
**21.00** «Панорама».
**01.00** «День спорта».

### Беларусь 2

**06.55** «Я хочу это увидеть!».
**07.25** «Белорусская кухня».
**07.55, 21.05** «Тэлебарометр».
**08.00 «Моя прекрасная няня».** Сериал.
**10.00** «Азбука вкуса».
**10.35 «Кто в доме хозяин?».** Сериал.
**12.30** «Битва экстрасенсов. Война титанов».
**14.45** «Копейка в копейку».
**15.25 «два ствола».** Худ.фильм.
**17.20 «Скайлайн».** Худ.фильм.
**18.55** «Удиви меня».
**19.55** Биатлон. Кубок мира. Масс-старт. Мужчины. Прямая трансляция.
**20.40** «Кипяток».
**21.10** «Хочу в телевизор!».
**21.25** Биатлон. Кубок мира. Масс-старт. Женщины. Прямая трансляция.
**22.10** «Спортлото 6 из 49», «КЕНО».
**22.15** «Тяни-Толкай». Концерт.
**23.55** «Орел и решка. Неизведанная Европа».
**00.45 «Как я встретил вашу маму».** Сериал.

### Беларусь 3

**08.00, 13.20, 16.05, 23.55** "Калейдаскоп".
**08.15 "Горка!".** Маст.фільм.
**09.50** "Палявая пошта памяці".
**10.20 "Полымя".** Маст.фільм.
**12.50, 16.20** "Размаўляем па-беларуску".
**13.35** "Сцежкай ваўка".
**14.15 "Чырвоны псалом".** Маст.фільм.
**15.35** "Камертон".
**16.25 "І зноў Анiскiн".** Серыял.
**19.45** "Сусветныя таямніцы".
**20.40** "Калыханка".
**21.00** "Танк на Месяцы". Дак.фільм.
**21.45 "Пракажоная".** Маст.фільм.
**23.15** "Бард-парад".

### Беларусь 5

**07.35, 00.00** «PRO-спорт».
**07.50** Хоккей. КХЛ. «Нефтехимик»–«Динамо-Минск».
**09.50** «Спорт-микс».
**10.10** Баскетбол. НБА.
**12.00** Гандбол. Чемпионат Европы-2016. Избранное.
**13.35** Биатлон. Этап Кубка мира. Спринт. Женщины.
**15.05** «Мир английской премьер-лиги».
**15.40, 17.55** Футбол. Чемпионат Англии.
**17.40** «Наши».
**20.00** Теннис. Кубок Федерации. Канада–Беларусь.
**00.10** Гандбол. «Татран»–«БГК им.Мешкова».

### ОНТ

**07.00** «Субботнее утро».
**08.00, 09.00, 16.00, 20.30** «Наши новости».
**09.05** «Смешарики. Новые приключения».
**09.25** «Здоровье».
**10.25** «Смак».
**11.00** «Идеальный ремонт».
**12.00** «Умницы и умники».
**12.45 «Путешествия Гулливера».** Худ.фильм.
**14.15, 16.20 «Перси Джексон и похититель молний».** Худ.фильм.
**16.15, 21.00** «Новости спорта».
**16.40** «Теория заговора».
**17.40** «Кто хочет стать миллионером».
**18.40** Концерт Елены Ваенги.
**21.05** «Сегодня вечером».
**22.35 «Опасная иллюзия».** Худ.фильм.
**00.20 «Большой капкан, или Соло для кошки при полной луне».** Худ.фильм.

### РТР-Беларусь

**07.00 «Следствие ведут знатоки».** Сериал.
**11.00, 14.00, 20.00** «Вести».
**11.15** «Правила движения».
**12.05 «Печки-лавочки».** Худ.фильм.
**14.15** «Личное. Валентин Смирнитский».
**15.00 «Однажды преступив черту».** Худ. фильм.
**16.40 «Человеческий фактор».** Сериал.
**19.55** «Погода на неделю».
**21.00 «Отец поневоле».** Худ.фильм.
**22.45 «Ищу мужчину».** Худ.фильм.

### НТВ-Беларусь

**06.05** "Астропрогноз".
**06.10, 08.20 «Хвост».** Сериал.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**08.50** «Готовим».
**09.25** «Врачебные тайны плюс».
**10.25** «Главная дорога».
**11.00** «Еда живая и мертвая». «Майонез».
**11.55** «Квартирный вопрос».
**13.20** «Кулинарный поединок».
**14.20** «Поедем, поедим!».
**15.05** «Следствие ведут…».
**16.25 «Улицы разбитых фонарей».** Сериал.
**18.05** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение».
**19.55** «Новые русские сенсации».
**20.50** «Ты не поверишь!».
**21.45 «Идеальное убийство».** Худ.фильм.
**23.20 «Соло для пистолета с оркестром».** Сериал.

### СТВ

**05.45 «Фрида».** Худ.фильм.
**07.50** «Анфас».
**08.05** «Тайны Чапман».
**09.00** «Умнее не придумаешь».
**10.00** «Другая страна».
**11.20** «Минск и минчане».
**11.55 «Солдаты-8».** Сериал.
**13.30, 16.30, 19.30** «24 часа».
**13.40, 00.35 «Вокзал для двоих».** Худ.фильм.
**15.05** Концерт Михаила Задорнова.
**15.55** «Большой город».
**16.40** «Наше дело».
**16.55** «Дорогая передача».
**17.15 «Я – Сэм».** Худ.фильм.
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10 «Признания опасного человека».** Худ. фильм.
**22.05** «Любовь до нашей эры», «Моя жена марсианка».

### Мир

**06.00 «Если можешь, прости».** Худ.фильм.
**07.30** «Союзники».
**08.00, 13.00** Мультфильмы.
**08.30** «Медицинская правда».
**09.00** «Ой, мамочки!».
**09.30** «Нет проблем».
**10.00, 16.00** «Новости».
**10.15** «Сделано в СССР».
**10.45, 02.25 «Воры в законе».** Худ.фильм.
**12.30** «Бремя обеда».
**13.30, 03.45 «Детектив Ди и тайна призрачного пламени».** Худ.фильм.
**16.15** «Практическая магия. Разоблачение иллюзий».
**17.00 «Мушкетеры Екатерины».** Сериал.
**23.10 «Сокровища О.К.».** Худ.фильм.
**01.10** «Культпросвет».
**01.55** «Диаспоры».

### Россия Культура

**06.30** «Евроньюс».
**10.00** «Библейский сюжет».
**10.35 «Длинный день».** Худ.фильм.
**12.00** «Иные берега».
**12.40** «Пряничный домик».
**13.05** «На этой неделе… 100 лет назад. Нефронтовые заметки».
**13.35** «Год цапли».
**14.30 «Правда хорошо, а счастье лучше».** Спектакль.
**17.00** «Новости культуры».
**17.30** «По следам Тимбукту».
**18.20 «Вылет задерживается».** Худ.фильм.
**19.35** «Романтика романса».
**20.30** «Большой балет».
**22.30 «Чарли».** Худ.фильм.
**00.15** «Богемия – край прудов».
**01.05** «Трио Карлы Блей на джазовом фестивале в Кюлли».
**01.55** «Искатели».
**02.40** «Мировые сокровища».

### Белсат

**07.00, 08.00, 23.25** "Студыя "Белсат".
**07.25** "Загадкі беларускай гісторыі": "Расійская крэпасць у Гродне".
**07.45** "Сведкі: талака".
**10.10, 15.40, 23.35** "ПраСвет".
**10.50** "Вынаходлівы Дабрамір". Мультсерыял.
**11.00** "Польскія казкі і паданні". Мультсерыял.
**11.15** "Мова нанова: застолле".
**11.35, 12.20** "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
**11.50 "Чароўнае дрэва".** Серыял.
**12.30** "Два на два".
**13.05** "Асабісты капітал".
**13.25** "Натхненне". Рэпартаж.
**13.45 "Сыгмент падману".** Маст.фільм.
**15.10** "Бялінскага, 6". Дак.фільм.
**16.20, 00.15** "Пяць разбітых камер". Дак.фільм.
**17.50** "Рэпартэр".
**18.20** "Над Нёмнам".
**18.40 "Горад з мора".** Серыял.
**19.25** "Абарваныя жыцці: Шэран Тэйт". Дак. фільм.
**20.20** "Зона "Свабоды".
**21.00** "Аб'ектыў".
**21.10 "Бландзінка".** Маст.фільм.
**22.35** "Вайна валанцёраў". Рэпартаж.
**23.00** "Відзьмо-невідзьмо".
**01.45** "Зоры не спяць".

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 7 ФЕВРАЛЯ

### Беларусь 1

**07.25 «Кровные узы».** Худ.фильм.
**09.00, 12.00, 15.00** «Новости».
**09.10** «Арсенал».
**09.40, 00.35 «Два отца и два сына».** Сериал.
**10.15** «50 рецептов первого».
**11.10** «Истории ремонта».
**11.45** «Наши».
**12.10** «Новости. Центральный регион».
**12.35** «Коробка передач».
**13.10** «Зона Х. Итоги недели».
**13.40** «Тайны следствия».
**14.15** «Вокруг планеты».
**15.15** «Твой город».
**15.30** «Eurovision. Итоги недели».
**15.50 «Красотка».** Худ.фильм.
**17.35 «Зимний вальс».** Сериал.
**21.00** «Главный эфир».
**21.55** «Клуб редакторов».
**22.35** «Навіны надвор'я».
**22.55 «Золотая невеста».** Худ.фильм.

### Беларусь 2

**06.50** «Вот это да!».
**07.20** «Понять и обезвредить».
**07.50, 18.30** «Тэлебарометр».
**07.55, 23.20** «Уличная магия».
**08.20 «Кто в доме хозяин?».** Сериал.
**10.20** «Орел и решка. Неизведанная Европа».
**11.20** «Ваше лото».
**11.50** «Пятерочка».
**12.00** «Лебедь-трубач».
**13.15 «Моя прекрасная няня».** Сериал.
**15.10 «Скайлайн».** Худ.фильм.
**16.50 «Заложница-2».** Худ.фильм.
**18.25** «Хочу в телевизор!».
**19.10** «Суперлото».
**20.05** Биатлон. Кубок мира. Супермикс. Прямая трансляция.
**21.10** «Понаехали».
**22.05** "Спортлото 5 из 36", "КЕНО".
**22.25, 01.25 «Кости».** Сериал.
**23.55** Биатлон. Кубок мира. Смешанная эстафета. Прямая трансляция.

### Беларусь 3

**07.55, 22.20 "Нестар Бурма".** Серыял.
**09.20** "Подых струн".
**10.00** "Наперад у мінулае".
**10.25** "Сто песень для Беларусі".
**11.20** "Музеі Беларусі".
**11.45** "Імпульс Алфёрава".
**12.25 "І зноў Анiскiн".** Серыял.
**15.45** "Гітара па крузе".
**16.40 "Да скарбаў авіякатастрофы".** Маст. фільм.
**18.25** "Кіно і час".
**19.05 "Мой сябар Іван Лапшын".** Маст.фільм.
**20.40** "Калыханка".
**21.00** "Рок". Дак.фільм.
**23.50** "Сусветныя таямніцы".

### Беларусь 5

**07.10** «PRO-спорт».
**07.20** Футбол. Чемпионат Англии.
**09.15** Легкая атлетика. Мировой тур. Карлсруэ.
**11.20** Баскетбол. НБА.
**13.00** Гандбол. «Татран»–«БГК им.Мешкова».
**14.25** Биатлон. Этап Кубка мира. Масс-старт. Мужчины.
**15.15** Формула-Е. Гран-при Аргентины.
**16.25** «Овертайм».
**16.55** Хоккей. КХЛ. «Динамо-Минск»–«Йокерит».
**19.10** Биатлон. Этап Кубка мира. Масс-старт. Женщины.
**20.00** Теннис. Кубок Федерации. Канада–Беларусь. (В перерыве – «PRO-спорт. Новости»).

### ОНТ

**07.00** «Воскресное утро».
**08.00, 09.00, 16.00** «Наши новости».
**09.05** «Воскресная проповедь».
**09.20** «Смешарики. ПИН-код».
**09.35** «Непутевые заметки».
**09.55** «Пока все дома».
**10.40** «Фазенда».
**11.15** «Инна Макарова. Судьба человека».
**12.15** «Барахолка».
**13.05** «Гости по воскресеньям».
**14.00, 16.20** «Точь-в-точь».
**16.15** «Новости спорта».
**17.15** «Без страховки».
**20.00** «Контуры».
**21.05 «Клим».** Сериал.
**23.00 «Милый друг».** Худ.фильм.
**00.45 «Палата №6».** Худ.фильм.

### РТР-Беларусь

**07.00** «Комната смеха.
**07.30 «Ищу мужчину».** Худ.фильм.
**11.00, 14.00, 20.00** «Вести».
**11.15** «Сам себе режиссер».
**12.00** «Смехопанорама».
**12.30** «Утренняя почта».
**13.05, 14.15 «Осторожно, бабушка!».** Худ.фильм.
**15.00, 21.50 «Русская наследница».** Сериал.
**23.00** «Воскресный вечер».

### НТВ-Беларусь

**06.05** «Астропрогноз».
**06.05, 08.20 «Хвост».** Сериал.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** «Сегодня».
**08.50** «Их нравы».
**09.25** «Едим дома».
**10.25** «Первая передача».
**11.05** «Чудо техники».
**11.50** «Дачный ответ».
**13.20** «НашПотребНадзор». Не дай себя обмануть!».
**14.20** «Поедем, поедим!».
**15.05** «Следствие ведут…».
**16.20 «Улицы разбитых фонарей».** Сериал.
**18.05** «Следствие вели…».
**19.00** «Акценты недели».
**20.00 «Аз воздам».** Худ.фильм.
**23.15** «Судебный детектив».

### СТВ

**06.35 «Афромосквич-2».** Сериал.
**07.25** «Добро пожаловаться».
**07.45, 16.50** «Автопанорама».
**08.15 «Признания опасного человека».** Худ. фильм.
**10.10** «Чистая работа».
**11.00** «Большой завтрак».
**11.40 «Солдаты-8».** Сериал.
**13.30, 16.30** «24 часа».
**13.40, 00.20 «Вокзал для двоих».** Худ.фильм.
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «Центральный регион».
**17.20** «Военная тайна».
**19.30** «Неделя».
**20.25 «Отряд спасения».** Худ.фильм.
**22.00** «Девы Древней Руси», «Пирамиды. Воронка времени».

### Мир

**06.00** «Миллион вопросов о природе».
**06.15, 08.25** Мультфильмы.
**06.30 «Спящая красавица».** Худ.фильм.
**08.05** «С миру по нитке».
**09.00** «Реальное усыновление».
**09.30** «Почему я?».
**10.00, 16.00** «Новости».
**10.15** «Трэш-тест».
**10.45 «Я буду жить!».** Сериал.
**14.20 «Воссоединение семейки Адамс».** Худ. фильм.
**16.15, 22.00 «Пенелопа».** Сериал.
**21.00** «Вместе».
**00.10 «Мушкетеры Екатерины».** Сериал.

### Россия Культура

**06.30** «Евроньюс».
**10.00** «Обыкновенный концерт» с Эдуардом Эфировым».
**10.35 «Шестнадцатая весна».** Худ.фильм.
**12.00** «Легенды мирового кино».
**12.30** «Россия, любовь моя!».
**13.00** «Гении и злодеи».
**13.30** «Богемия – край прудов».
**14.25** «Что делать?».
**15.10** «Ольга Перетятько в концерте «Viva Opera!».
**16.20** «Пешком…».
**16.45** «Искатели».
**17.35** «Легендарные хиты Эдит Пиаф и Фрэнка Синатры». Концерт-посвящение в Московском театре мюзикла.
**19.05** «Начало прекрасной эпохи».
**19.20 «Дело «Пестрых».** Худ.фильм.
**20.55 «Стреляйте в пианиста».** Худ.фильм.
**22.15 «Травиата».** Опера.
**00.40 «Вылет задерживается».** Худ.фильм.
**01.55** «Год цапли».
**02.50** «Поль Сезанн».

### Белсат

**07.00** "Студыя «Белсат».
**07.10, 11.35** "ПраСвет".
**07.50, 10.30** "Вынаходлівы Дабрамір". Мультсерыял.
**08.00** "Польскія казкі і паданні". Мультсерыял.
**08.15** "Зона "Свабоды".
**08.50** "Маю права".
**09.15** "Над Нёмнам".
**09.30** "Два на два".
**10.05** "Рэпартэр".
**10.40** "Экспедыцыя прафесара Губкі". Мультсерыял.
**10.50** "Чатыры бакі казак". Мультсерыял.
**10.55 "Таямніца Сагалі".** Серыял.
**11.25** "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
**12.15, 23.35** "Абарваныя жыцці: Шэран Тэйт".
**13.10** "Відзьмо-невідзьмо".
**13.35** "Плынь кахання". Дак.фільм.
**14.50, 00.25** "Лікёра-гарэлачны завод".
**15.50** "Прыват: жыццё напаказ".
**16.15** "Людскія справы".
**16.45 "Бландзінка".** Маст.фільм.
**18.10** "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
**18.35** "Мова нанова: аўтастоп".
**19.00** "Эксперт".
**19.30** "Невядомая Беларусь": "І выберу Радзіму". Дак.фільм.
**20.10** "Бывайце, таварышы!". Дак.серыял.
**21.05** "Кінаклуб". "Кітайская гісторыя".
**21.15 "Кітайская гісторыя".** Маст.фільм.
**22.50 "Горад з мора".** Серыял.
**01.30** "Чачня: адваротны бок фасаду".

---

КОНКУРС

# IVAN з Беларусі

Як вядома, Аляксандр Іваноў (IVAN) з песняй "How to Fly" ("Як лятаць") прадставіць Беларусь на "Еўрабачанні-2016", якое пройдзе ў маі ў Стакгольме.

Абвешчана, што паводле вынікаў галасавання гледачоў IVAN набраў 23.167 галасоў. На другім месцы – Вольга Шыманская (Napoli) – 22.399 галасоў, на трэцім – Кірыл Ермакоў з 13.555 галасамі.

Песню для Аляксандра Іванова напісаў кампазітар Віктар Дробыш (той самы, які летась атрымаў ордэн Скарыны з рук Аляксандра Лукашэнкі). Дробыш – прадзюсар Іванова.

IVAN – беларускі выканаўца. Яму 21 год. Ён родам з Гомеля. Ужо "засвяціўся" на расійскіх тэлеканалах. Між іншым, перамог у конкурсе "5 зорак", быў суперфіналістам праекта "Галоўная сцэна".

Вынікі адбору на "Еўрабачанне" зноў выклікалі нежартоўныя спрэчкі.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «Ён – дурань»

Прадзюсар Віктар Дробыш пракаментаваў спрэчкі вакол вынікаў адбору.

**– У Беларусі, як правіла, адбор на "Еўрабачанне" праходзіць са скандаламі. На гэты раз спрэчкі выклікала сістэма галасавання. Прадзюсар аднаго з гуртоў нават прызнаўся ў накрутцы галасоў, у тым, што "купіў" 10 тысяч СМС. Многія лічаць, што раз у вас грошай шмат, то і магчымасцяў накруткі было больш. Скажыце шчыра, накручвалі?**

– Я не ведаю, хто гэта сказаў, хто гэты прадзюсар, але перадайце яму, што ён дурань, і, хутчэй за ўсё, дрэнны прадзюсар. Спрабаваць чагосьці накручваць і перамагчы нейкім несумленным спосабам на першым этапе – гэта закласці сабе бомбу на другі, асноўны этап. Ты ўжо адстойваеш гонар не проста свайго артыста ці сябе, а гонар краіны, ты ставіш пад удар усё. Перавядзіце музыку ў спорт. Уявіце, што вы спартсмен, падкруцілі сабе вынікі, прарваліся ў зборную Беларусі і будзеце прадстаўляць яе на Алімпіядзе. На Алімпіядзе вас усе, як сабаку, разарвуць на кавалкі. І што ад гэтага добрага?

Калі ты хоць трошкі прафесіянал, ты выдатна ўсведамляеш, што ты робіш, калі трэба чагосьці падкручваць, а калі не трэба. Працуе непасрэдна сама музыка, а гэтае ўсё глупства вакол яе – я яго як раней ненавідзеў, так і цяпер не люблю.

Я яшчэ ў снежні паляцеў у Амерыку і там часам проста глядзеў па скайпе, як хлопцы рыхтуюцца. Таму мне нават думкі такой не прыходзіла ў галаву. Мне здаецца, што гэта першапачаткова няправільна, гэта глыбока непрафесійна, па-местачковаму і па-дурному.

Зразумела, што прасіць сяброў галасаваць – гэта не караецца. Але гэта нават нецікава. Я думаю, гомельскія сябры і родныя Сашы таксама ўсе галасавалі. Але мы не прыкладалі ніякіх намаганняў, каб зрабіць нейкія там накруткі. Я ў Амерыцы не галасаваў. Хоць я лічу, што ўсе мае артысты вельмі моцна любяць Сашку: і Стас П'еха, і Слава, і Ціна Караль, і Ваенга – проста ўсе. І я ўпэўнены, што на сваіх сайтах яны заклікалі галасаваць за Сашку, падтрымаць яго.

# «У сваім сыне я ўпэўнены»

Бацька Аляксандра Іванова – Віктар Іваноў – вядомы ў Гомелі музыкант, іграе ў групе Original standart, працуе ў Гарадскім цэнтры культуры. Да гэтага яны разам выступалі ў групе Brown Velvet, якая потым была перайменавана ў Ivanov. Там жа іграе і старэйшы брат Аляксандра – Уладзімір.

*"І мабільны, і хатні тэлефоны проста распаліліся, не кажучы ўжо пра паведамленні ў інтэрнэце, – расказаў бацька спевака. – Выдатна разумею эмоцыі і радасць сваіх сяброў, таварышаў, знаёмых і незнаёмых, якія ад усёй душы віншавалі, і я палічыў сваім абавязкам адказаць кожнаму. Былі і паскудненькія пытанні, на якія я не звяртаю ўвагі. Таму што, калі недзе ў каго-небудзь што-небудзь атрымалася, абавязкова знойдуцца тыя, каму гэта не спадабаецца, ці будуць у крыўдзе за сваіх прэтэндэнтаў, будуць вінаваціць у несумленнасці і гэтак далей. Гэта нармальна. Проста трэба ўмець гэта прапускаць міма сябе".*

У сваім сыне Уладзімір Іваноў упэўнены: *"Я яму сказаў: не трэба хваляваацца і перажываць, проста рабі сваю справу, ты ўмееш гэта і ведаеш як. Выходзь і працуй!"*

Дарэчы, у Гомелі Аляксандр стараецца бываць раз у месяц, але шумных і вялікіх кампаній не любіць – больш каб дома пасядзець, пачытаць, памаляваць. *"Пасняваць! Спявае з раніцы да ночы, і выключыць яго не атрымліваецца"*, – смяецца бацька.

Дарэчы, сям'я Івановых жыве ў прыватным доме. Іграюць і спяваюць у ёй усе. Таму, калі не чуваць музыкі, суседзі хвалююцца: ці ўсё ў парадку?..

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ЗАКУЛІССЕ

# Зміцер Вайцюшкевіч пераязджае ў Варшаву

Беларускі музыкант атрымаў стыпендыю Міністэрства культуры Польшчы, накіраваную на паляпшэнне міжкультурнага дыялогу і наладжванне сувязяў паміж Польшчай і суседнімі краінамі. Найбліжэйшыя паўгода Вайцюшкевіч разам з сям'ёй правядзе ў Варшаве.

Паводле слоў музыканта, у Польшчы ён плануе вывучаць эстрадны музычны тэатр, каб потым стварыць нешта падобнае на Брадвей у Беларусі.

Але, нягледзячы на пераезд, ён не плануе згортваць музычную дзейнасць і гатовы прыязджаць у Беларусь з канцэртамі, калі іх дазволяць. Нагадаем: з 2011 года ў музыканта былі праблемы з арганізацыяй канцэртаў у Беларусі.

*«Апошнім часам усё адно ў Польшчы было больш канцэртаў, чым на радзіме, таму нічога прынцыпова не змяняецца. Заставацца на сталае месца жыхарства за мяжой я не збіраюся, хоць такіх магчымасцяў была безліч. Сэрца маё ў Вайцюшках і ў Беларусі, а цела – яно ж паўсюль можа лётаць»*, – распавёў спявак.

УСМІХНІЦЕСЯ!

* * *

– Дарагі, а ты ж і на самай справе лічыш, што мяне табе сам Бог паслаў?

– Канечне, дарагая! Вось толькі не разумею, за якія грахі…

* * *

Настаўніца ўшчувае бацькоў вучня:

– Ваш сын вельмі слабы ў геаграфіі!

– Не страшна, з нашымі прыбыткамі далёка не паедзеш.

* * *

Самая папулярная першая фраза ў любым паходзе: "А ведаеце, што мы забылі?.."

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.**
**Тэл. рэкламнага аддзела:**
**(017) 3286609**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 16008

**Падпісныя індэксы:** **63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,** **632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 28.01.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25050 экз. Заказ № 128